# КРЫВІНКА

ЛІСТАПАД
№ 17 (189)
2016 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

# У БЕШАНКОВІЧАХ ПАДПІСАНЫЯ ВАЖНЫЯ ДАКУМЕНТЫ

**Тры беларуска-славацкіх дакументы аб супрацоўніцтве ў фармацэўтыцы і біятэхналогіях падпісаныя ў Бешанковічах 25-га лістапада, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Падпісанне прайшло падчас афіцыйнага візіту ў Беларусь старшыні ўрада Славакіі Роберта Фіцо, які наведаў навукова-вытворчую кампанію СТАА "Націвіта" у Бешанковічах.

Старшыня ўрада Славакіі азнаёміўся з прадпрыемствам і адзначыў, што ў час знаходжання ў Мінску прайшлі прадуктыўныя сустрэчы з Прэзідэнтам і прэм'ер-міністрам Беларусі. Перамовы былі змястоўнымі і цікавымі "Гаворка ішла аб шматлікіх праектах. Вылучылі некалькі напрамкаў супрацоўніцтва, але самы важны - гэта фармацэўтычная вытворчасць, - адзначыў Роберт Фіцо. - Цяпер шмат гаворыцца аб інавацыях. Але яны маюць сэнс, калі накіраваныя на чалавека і рэалізуюцца ў імя чалавека". Роберт Фіцо выказаў надзею, што "Націвіта" стане добрым прыкладам супрацоўніцтва. І паведаміў, што запрасіў свайго беларускага калегу наведаць Славакію, а таксама распавёў пра планы падпісання генеральнага пагаднення аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве.

Навукова-вытворчая кампанія СТАА "Націвіта" падпісала дагавор аб супрацоўніцтве з найбуйнейшым дыстрыбутарам славацкай фармацэўтычнай кампаніяй Unipharma і пагадненне аб супрацоўніцтве з навукова-даследчым цэнтрам BioMed. Акрамя таго, сёння падпісаны мемарандум аб узаемаразуменні па двухбаковым супрацоўніцтве ў галіне даследаванняў і адукацыі паміж Віцебскім дзяржаўным медыцынскім універсітэтам і Універсітэтам імя Каменскага ў Браціславе.

Пасля падпісання дакументаў старшыня Віцебскага аблвыканкама Мікалай Шарстнёў адзначыў, што ў Бешанковічах закладзены добры падмурак інтэрнацыянальнага супрацоўніцтва. "Многія праяўляюць да яго рэальную цікавасць. Больш за тое, гэты праект неабходны грамадзянам нашых краін", - падкрэсліў губернатар. Ён таксама сказаў, што сёння яшчэ адбудуцца перамовы са славацкай дэлегацыяй, на якіх плануецца абмеркаваць бліжэйшыя планы.

"Магчыма, будуць прыняты важныя рашэнні", - адзначыў Мікалай Шарстнёў. Як расталумачыў генеральны дырэктар кампаніі "Націвіта" Аляксей Сычоў, падпісанне дамовы з Unipharma адкрывае перспектывы для рэгістрацыі і дыстрыбуцыі прадукцыі "Націвіты" у Славакіі, Чэхіі, Венгрыі, Польшчы. Акрамя гэтага, у Бешанковіцкага прадпрыемства з'яўляецца магчымасць правядзення сумесных клінічных выпрабаванняў на базе лячэбных устаноў славацкай кампаніі.

Пагадненне аб супрацоўніцтве з BioMed дае магчымасці навуковай кааперацыі, абмену тэхналогіямі і вопытам паміж вучонымі дзвюх краін. Дакумент накіраваны на рэалізацыю сумесных даследаванняў па распрацоўцы і стварэнню новых прэпаратаў. Мемарандум паміж ВНУ таксама мае на мэце навукова-даследчую кааперацыю і развіццё навуковага патэнцыялу маладых вучоных у сферы біятэхналогій. "Націвіта" займаецца распрацоўкай і выпускам інавацыйных лекавых прэпаратаў.

Кампанія першай у Беларусі пачала вытворчасць біятэхналагічных сродкаў на аснове монаклянальных антыцелаў для лячэння анкалагічных захворванняў. Славакія удзельнічае ў гэтым праекце не толькі як тэхналагічны, але і як інвестыцыйны партнёр. Па словах Аляксея Сычова, такое цеснае ўзаемадзеянне бакоў будзе спрыяць падрыхтоўцы кадраў і павышэнні кваліфікацыі прафесарска-выкладчыцкага складу, развіццю навукі, пачынаючы ад стварэння сучасных дыягнастычных тэст-сістэм у анкалогіі і заканчваючы распрацоўкамі персаніфікаваных вакцын для лячэння анкалагічных захворванняў.

Фармкампанія "Націвіта" - завод па вытворчасці прэпаратаў для лячэння злаякасных пухлін, а таксама шэрагу аутоіммунных і цяжкіх інфекцыйных захворванняў. Прадукцыя прадпрыемства ўключана ў праграму імпартазамяшчэння Беларусі. Кампанія ўтворана ў 2012 годзе.

Інвестыцыйны праект па будаўніцтве прадпрыемства рэалізуецца пры падтрымцы кампаній-партнёраў: "Натка Фарма Лімітэд" (Індыя), ТАА "ВітВар" (Беларусь), АТ "Віта Фарма" (Славакія), AB ZIA valda (Літва). Агульная сума інвестыцый - 15 млн еўра.

**Алёна Ціханава**
**БЕЛТА**

*** * * ***

*Цябе буду чакаць я,*
*калі нават спыніцца час,*
*і апошні аўтобус*
*ужо адплыве ад вакзала,*
*калі ціха згарыць*
*векапомнага клёна свяча,*
*які помніць усё,*
*што ты мне пры сустрэчах казала.*

*Цябе буду чакаць я,*
*калі нават спусціцца ноч,*
*і дарога ўся ўляжацца спаць –*
*да апошняга звіву,*
*і калі ад чакання майго*
*так прагоркне віно,*
*што не зможа ўзгадаць*
*ані даты, ні месца разліву.*

*Цябе буду чакаць я,*
*нібыта напятая ніць,*
*што чакае абрыву.*
*(Усё, што на свеце, – ад Бога.)*
*І тады нават буду чакаць,*
*як званок празвініць,*
*што мяне дзесь самога чакаюць,*
*і ўжо досыць доўга.*

*І тады цябе буду чакаць,*
*калі роспач пачне*
*ў мае вокны,*
*што згаснуць яшчэ не паспелі, ламіцца,*
*і тады, калі ўбачу,*
*нібыта ў застрашлівым сне,*
*што памчаліся ў вырай*
*мае жураўлі і сініцы.*

*Калі раптам хвіліны,*
*што цягнуцца, быццам гады,*
*усе кінуцца разам наўцёкі*
*шалёным натоўпам,*
*стане горкім, як дым,*
*мой агонь успамінаў тады,*
*а чаканне ўздыхне яшчэ раз*
*і навекі замоўкне.*

***Г.Станкевіч***



АЎТАРСКІЯ ПРАВЫ

# ПРАДПРЫМАЛЬНІК ПАДАЕ Ў СУД

**Уладальнік брэнду «Беларусам», індывідуальны прадпрымальнік з Бешанковічаў Уладзімер Рамановіч шукае дапамогі юрыстаў і зьбіраецца спаганяць матэрыяльную кампэнсацыю з Слонімскай фабрыкі трыкатажу RomGil.**

Гэтая фабрыка выпусьціла ў продаж швэдры і камізэлькі з нацыянальным арнамэнтам, дызайн якіх цалкам супадае з дызайнам тых, якія прадаюцца пад маркай «Беларусам».

На сваёй старонцы ў «Фэйсбуку» Рамановіч напісаў, што прадукцыя RomGil выробленая і прадаецца бяз згоды яго як аўтара дызайну:

«Трэба дапамога ў абароне аўтарскіх правоў. Сытуацыя: адна беларуская фабрыка вырабіла прадукцыю, на 100% падобную да нашай і прадае ў краме. Але гэта зробленa без маёй згоды. Я малюнкі і вобразы распрацоўваў яшчэ ў 2014–2015 гадах».

Уладзімер Рамановіч сказаў Свабодзе, што супрацоўнічае з фабрыкай RomGil — на ёй робіць трыкатажную прадукцыю, якая распаўсюджваецца пад брэндам «Беларусам». Але дамовы пра тое, што RomGil будзе шыць паводле дызайну, распрацаванага Рамановічам, і прадаваць пад сваім брэндам, не было.

«Канцэпцыя брэнду „Беларусам“ іншая, мы выстаўляемся на кірмашах, удзельнічаем у паказах. А цяпер атрымліваецца, што вопратка, якая зусім падобная да нашай, прадаецца ў „закутках“, у самых звычайных аддзелах самых звычайных крамаў», — скардзіцца Рамановіч.

Карэспандэнтка Радыё Свабода наведала менскі ЦУМ і пераканалася, што ў аддзеле вопраткі для мужчын сапраўды прадаюцца швэдры і камізэлькі RomGil, вельмі падобныя да прадукцыі Рамановіча. Прычым са зьніжкай 30%.

«Некаторыя з тых, да каго я ўжо пасьпеў зьвярнуцца, кажуць, што калі ў мяне няма патэнту, то любая фабрыка можа выкарыстоўваць гэты дызайн, таму што традыцыйны арнамэнт не абараняецца аўтарскім правам. Але ёсьць іншая думка. Так, у Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасьці спэцыяліст патлумачыў, што мой дызайн зьяўляецца аб'ектам», — кажа прадпрымальнік і дадае, што зьбіраецца адстойваць свае правы спачатку ў дасудовым парадку, а пасьля нават падаваць пазоў у гаспадарчы суд і дамагацца матэрыяльнай кампэнсацыі.

«Я толькі за, каб арнамэнт шырэй выкарыстоўваўся ў дызайне вопраткі. Але тут атрымліваецца, што фірма выпусьціла вырабы, скарыстаўшы мае малюнкі і не спытаўшы мяне. Асабліва непрыемна, што мы ж супрацоўнічаем з гэтым прадпрыемствам — менавіта таму ў іх і былі ўсе гэтыя эскізы. Я не даваў дазволу на выкарыстаньне свайго дызайну пад брэндам RomGil», — кажа Рамановіч.

Дырэктарка фабрыкі RomGil Раіса Мышыцкая сказала Свабодзе, што Уладзімер Рамановіч не ствараў дызайну, а замовіў швэдры і камізэлькі з малюнкамі, распрацаванымі на вытворчасьці:

«Гэтыя дызайны ён пабачыў у нас. Сказаў, што яму такія трэба. Замовіў, і мы яму выпускалі вопратку з арнамэнтам. У чым пытаньне? Першапачаткова гэты быў наш малюнак, але мы яго не выкарыстоўвалі масава. Але сярод шаблёнаў ён быў. Ён замовіў і цяпер лічыць, што гэта ягоны дызайн».

Раіса Мышыцкая адзначыла, што з прадпрымальнікамі Рамановічам не заключала ні пісьмовай, ні вуснай дамовы пра тое, што вопратка з арнамэнтам будзе вырабляцца эксклюзіўна толькі для брэнду «Беларусам»:

«Я яго разумею, таму што ў яго брэнд і добрыя продажы. Але дамовы пра тое, што мы вяжам рэчы з арнамэнтам толькі для яго, няма», — сказала Мышыцкая і адзначыла, што фабрыка вырашыла запусьціць выраб мадэляў з арнамэнтам пад уласным брэндам, «таму што гэта цяпер модна».

«Гэты ўзор цяпер модны. Таму мы вырашылі скарыстаць сваю старую распрацоўку і выпусьціць джэмпэры і швэдры з арнамэнтам. Тым больш што раней у нас былі сукенкі з такімі самымі малюнкамі».

**Радыё Свабода**

НАША ЖЫЦЦЁ

# КОШТЫ І ПРАБЛЕМЫ РЫНКУ

**У нядзелю 20-га лістапада на бешанковіцкім рынку было, як заўжды, людна.**

Тут прадавалі розную сельгаспрадукцыю. Бульба ішла па 3,50 руб за вядро. Буракі і морква каштавалі 0,6 руб за 1 кг. Капусту прадавалі па 0,3 рублі за кг. Яблыкі ў залежнасці ад якасці і гатунку прапаноўвалі ад 0,5 да 1,5 руб за кг. Паўлітровік мёду, як і ў мінулыя гады, каштаваў 5,00 рублёў. За 1 кг сала прасілі 12 рублёў. Дзясятак курыных яек каштаваў 2,3 рубля.

Уся гэта прадукцыя прадаецца, па сутнасці, па-за рынкавай тэрыторыяй на вуліцы Кастрычніцкай. Калі сялян бывае шмат, то яны стаяць ад самага будынку ваенкамата да галоўных варот пры ўваходзе на рынак. Напрыканцы лета і ў пачатку восені гандляроў бывае больш за 100 чалавек. Некаторыя гандляры, каб заняць выгаднае месца, прыязджаюць сюды а пятай раніцы.

Некалькі гадоў таму на вуліцы Кастрычніцкай уздоўж сцяны ваенкамата паставілі два сталы, за якімі месціцца паўтара дзясятка прадаўцоў. Астатнія, як і раней, раскладваюць свой тавар проста на зямлі.

Асвятленне на самім рынку зараз працуе. А вось на вуліцы Кастрычніцкай цёмна. Адзіны ліхтар, які стаіць насупраць сталоў для гандлю, па-ранейшаму не гарыць. Раніцай цёмна, і, каб палічыць грошы, трэба бегаць пад святло або мець сваё.

Няма паблізу і веласіпеднай стаянкі. А таму веласіпеды паркуюцца дзе заўгодна.І варта пакупнікам і гандлярам адстойваць сваё права на цывільны гандаль.

**А.Тутэйшы**

НАША КУЛЬТУРА

# КАСЦЁЛ СВЯТОГА АНТОНІЯ ПАДУАНСКАГА

**Касцёл Святога Антонія Падуанскага, які быў пабудаваны ў Віцебску ў сярэдзіне XVIII стагоддзя, быў выдатным архітэктурным творам позняга барока. Храм, які нагадваў з боку галоўнага алтара надзьмутыя ветразі карабля, з'яўляўся часткай бернардынскага кляштара і стаяў на Рынкавай плошчы.**

На сваіх акварэлях яго малява-лі Напалеон Орда і Іосіф Пешка. Мабыць, самае вядомае ягонае славеснае апісанне змяшчаецца ў рамане Івана Буніна «Жыццё Арсеньева». Да нашых дзён, на жаль, касцёл не захаваўся. У час Вялікай Айчыннай яго вежы былі разбураны, а канчаткова яго знеслі ў 1961-м. Праўда, у апошні час сур'ёзна гавораць аб яго адраджэнні. З такой ініцыятывай выступіла рымска-каталіцкая дыяцэзія, а нядаўна гарадскія ўлады пацвердзілі: касцёл Святога Антонія плануецца аднавіць на гістарычным месцы - насупраць Ратушы, дзе зараз знаходзіцца фантан «Зліццё трох рэк».

Сёння на месцы касцёла Святога Антонія насупраць Ратушы знаходзіцца фантан. Калі я шукаў звесткі пра касцёл, практычна ўсе віцебскія даследчыкі рэкамендавалі мне прачытаць працу віленскага гісторыка Ауксе Каладжынскайтэ. З ёй яна выступала на навуковай канферэнцыі ў беларускім абласным цэнтры 5 гадоў таму. Там гаворыцца, што Віцебск быў адным з найпрыгажэйшых гарадоў Вялікага Княства Літоўскага эпохі барока.

Некаторыя крыніцы паказваюць, што яго драўляны папярэднік з'явіўся ў канцы XVII стагоддзя, а ў пачатку XVIII - згарэў. Цікава, што літоўская даследчыца адшукала ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі дамову аб будаўніцтве касцёла, заключаную ў 1742 годзе паміж Фантана і Фундатарам (па-сучаснаму - «спонсарам») кляштара бернардзінцаў жонкай віцебскага ваяводы Тэкляй Ганнай Агінскай.

Іосіф Фантана абавязаны быў выконваць работы па наглядзе, клапаціцца аб найманні муляроў, столяраў, цесляроў, шкляроў і іншых майстроў. Яму прызначылі ўзнагароду ў памеры 3.000 бітых талераў, часткай якога ён павінен быў дзяліцца з будаўнікамі. На думку Каладжынскайтэ, заказ на будаўніцтва касцёла ў Віцебску стаў лёсавызначальным у кар'еры Фантаны - выхадца з вядомай італьянскай сям'і архітэктараў.

Іосіф нарадзіўся у 1716 годзе ў Варшаве. Асновы прафесіі вывучаў у хатнім асяроддзі. Ён працаваў у Гародне ў якасці архітэктара сям'і Сапегаў. Пазней ажаніўся з дачкой віленскага архітэктара Яна Пенса, а у 1742 годзе разам з сям'ёй з'ехаў з Вільні і пасяліўся недалёка ад Віцебска, дзе яму належалі два фальваркі.

Касцёл Святога Антонія - першая праца Фантаны ў Віцебску. У 1743 годзе ён атрымаў яшчэ адзін заказ ад віцебскіх уніятаў: пабудаваць на адным з самых высокіх і прыгожых месцаў горада ўражлівы сабор Успення Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Язафата па памерах, параўнальных з найбуйнейшымі базылікамі езуітаў у Кракаве, Вільні і Гародні(сёння гэта праваслаўны Свята -Успенский сабор). Але вернемся да святога Антонія. Вядома, што праз чатыры гады пасля заключэння дагавора будаўнічыя работы працягваліся. У 1746 годзе ў сваёй скарзе Фантана паведамляе, што на яго напалі злодзеі і выкралі 400 бітых талераў, прызначаных для ўзвядзення касцёла. Мяркуецца, што аздобныя працы скончыліся ў 1762 годзе. У 1768-м касцёл, які меў 9 алтароў, асвяцілі ў гонар святога Антонія Падуанскага.

Па словах віцебскага гісторыка мастацтва Людмілы Хмяльніцкай, пасля падаўлення польскага паўстання 1830 года новыя касцёлы на былых землях ВКЛ не будаваліся, а існыя часцяком зачыняліся або перадаваліся праваслаўным суполкам: - Касцёл Святога Антонія гэтая чара абмінула. Але пасля рэвалюцыі яго лёс усё роўна апынуўся незайздросным. У розны час у ім знаходзіліся спартыўная зала і музей атэізму. У музеі выстаўляліся нібыта выкрытыя бальшавікамі мошчы Еўфрасінні Полацкай. Калі ж заўважылі, што наведвальнікі прыходзяць ім пакланіцца і памаліцца каля іх, мошчы адтуль прыбралі.

Знеслі касцёл, калі выпроствалі сучасную вуліцу Леніна. Раней яе частку ад плошчы Свабоды да плошчы Леніна, распавядае Людміла Хмяльніцкая, называлася Смаленскай і выгіналася, абыходзячы храм:

- Калі сёння касцёл паставіць на месца, дзе ён стаяў першапачаткова, яго вежы апынуцца на праезнай частці вуліцы Леніна. Але калі б мы паглядзелі на Рыначную плошчу сярэдзіны XVIII стагоддзя з моста Езуітаў (сучасны Кастрычніцкі мост), то заўважылі б, што храм гуляў найважную ролю ў архітэктурным афармленні плошчы. Сёння ж, калі злева стаіць Васкрасенская царква а справа Ратуша, дамінанты відавочна не хапае. Касцёл Святога Антонія мог бы стаць той самай дамінантай, якая ўраўнаважыла б архітэктурную кампазіцыю адной з цэнтральных плошчаў горада. Ратуша і руіны касцёла Святога Антонія, 1950-я гады.

Дарэчы, у Віцебску пачынаючы з 1990 года былі адноўлены праваслаўныя Пакроўскі сабор, Дабравешчанская Царква, Васкрасенская царква і Успенскі сабор. Касцёл Святога Антонія можа стаць першым каталіцкім храмам, які адновяць у абласным цэнтры.

**Каментар па тэме Андрэя Макеева, галоўнага архітэктара Віцебска:** «Пытанне па аднаўленні касцёла Святога Антонія разглядаецца. Сёння ўжо распрацавана эскізная прапанова. Зацікаўлены бок, – рымска-каталіцкая дыяцэзія, займаецца зборам дазваленчых дакументаў, пацвярджэннем крыніц фінансавання. Таксама для ажыццяўлення праекта павінна быць атрыманы дазвол Кіраўніка дзяржавы і выкананы патрабаванні, выстаўленыя горадам.

Калі будаўніцтва пачнецца, то заказчык павінен будзе перанесці фантан «Зліццё трох рэк» у іншае месца. Сам жа касцёл будзе трохі зрушаны ад свайго першапачатковага месцазнаходжання».

**TUT.BY**

НАВІНЫ КДК

# ЗНІКЛІ БЮДЖЭТНЫЯ ГРОШЫ

**У шэрагу гаспадарак Віцебскай вобласці, у тым ліку ў Бешанковіцкім раёне, зніклі бюджэтныя грошы, выдзеленыя чатыры гады таму на куплю будматэрыялаў для ўзвядзення ферм. Распачатыя крымінальныя справы, паведамляе «СБ Беларусь Сегодня».**

Сітуацыю каментуе начальнік упраўлення КДК Віцебскай вобласці Сяргей Лісянкоў:

- На Віцебшчыне павінны былі з'явіцца дзясяткі новых сучасных ферм і жывёлагадоўчых комплексаў. Але, на жаль, у выніку далёка не ўсе гаспадарнікі выканалі задуманае. Зараз мы правяраем мэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў і ўжо сутыкнуліся з шэрагам сур'ёзных парушэнняў закона. У некаторых сельгаспрадпрыемствах, якія атрымалі бязвыплатныя пазыкі, так і не прыступілі да будаўніцтва. У асобных - яно распачата, але замарожана.

Напрыклад, для ААТ «Лядна» Лепельскага раёна на новы аб'ект з казны выдзелілі каля 100 тысяч дэнамінаваных рублёў. Будматэрыялы павінны былі завезці на будпляцоўку яшчэ ў 2012 годзе. Але да будаўніцтва тут не прыступалі наогул.

Дзе грошы? Правяраючым паказалі накладныя, у адпаведнасці з якімі выраблены па замове гаспадаркі жалезабетонныя канструкцыі былі нібыта адгружаны ў адрас заказчыка, а затым прыняты назад на адказнае захоўванне. Аднак гэтыя матэрыялы не знайшлі ні ў прадпрыемства-вытворцы, ні ў заказчыка.

Аналагічная сітуацыя - у Бешанковіцкім, Віцебскім, Лёзненскім і шэрагу іншых раёнаў. Праверкі працягваюцца, у дачыненні да некаторых кіраўнікоў сельгаспрадпрыемстваў і кіраўніцтва бударганізацый, куды адышлі тагачасныя мільярды, распачатыя крымінальныя справы.

Мы пабывалі ў адной з гаспадарак у Віцебскім раёне разам з галоўным спецыялістам КДК вобласці Вольгай Гетманчук.

... На пад'ездзе да вёскі Замасточча нас сустракае сумная карціна - абрысы распачатай тут будоўлі, цяпер ужо зараслі бур'янам. Гэты аб'ект, на які ўскладалі вялікія надзеі жывёлаводы ААТ «Ліпаўцы», павінен быў стаць домам для кароў і рамонтнага маладняку.

Майстар будучастка «Ліпаўцы» Аляксандр Зінавенка ўздыхае:

- Пачалі будаўніцтва ў снежні 2012-га, а праз 4 месяцы замарозілі. Чаму? Вывозіць будматэрыялы не было на чым, патрэбна была спецыялізаваная тэхніка. Даставілі на пляцоўку толькі іх частку. А на будаўніча-мантажныя працы патрэбныя былі грошы, іх на той момант не аказалася. Цяпер ужо цяжка нешта ўспомніць, за гэты час кіраўніцтва нашага ААТ памянялася.

Тут, ля Замасточча, па цэнах 2012 года ляжаць «непатрэбныя» будматэрыялы амаль на 50 тысяч рублёў (дэнамінаваных). Па дакументах астатнія канструкцыі (яшчэ на 100 тысяч рублёў) захоўваюцца на будпрадпрыемстве. Але іх там, як ужо гаварылася, няма. Кіраўнік і галоўны бухгалтар Віцебскага сельскага будаўнічага камбіната таксама даўно развіталіся са сваімі пасадамі. Цяпер каналы, па якіх раствараліся дзяржаўныя грошы, усталёўваюць следчыя.

Праектна-каштарысны кошт жывёлагадоўчага аб'екта ў «Ліпаўцы» - 390 тысяч рублёў. Атрымліваецца, што з абласнога бюджэту бязвыплатна аплацілі амаль палову будучых выдаткаў. На падрыхтоўку праектнай дакументацыі гаспадарка выдаткавала звыш 23 тысяч рублёў. Цяпер яго фінансавы стан далёка не лепшы. Зарплату выплачваюць з затрымкамі.

Галоўны эканаміст Валянціна Драбцова паведаміла, што пагалоўе ў параўнанні з мінулым годам паменшылі - ёсць праблемы з камплектацыяй статка, няма грошай на куплю маладняку ў насельніцтва. Дырэктар Алег Станкевіч прызнаўся: новыя сучасныя памяшканні для жывёлы, вядома, патрэбныя. Але будаваць што-небудзь «Ліпаўцы» цяпер не ў сілах. Ды і гэтую, зараз ужо закінутую, пляцоўку першапачаткова выбралі няправільна - у Замасточча няма патрэбнай колькасці працаздольных вяскоўцаў.

У КДК вобласці канстатуюць: сёння ў гаспадарках рэгіёну ляжаць сотні тон незапатрабаваных будматэрыялаў. Іх інвентарызацыю па даручэнні камітэта правялі яшчэ паўтара гады таму. Аблвыканкаму даручылі знайсці спосаб перадачы іх тым арганізацыям, якія змогуць па-гаспадарску распарадзіцца дабром. Быццам бы, прапрацавалі і шляхі, як гэта зрабіць, і нават прынялі адпаведнае рашэнне. Але практыка паказвае, што яно так і засталося на паперы.

Цяпер спецыялісты падлічаць дакладныя сумы нямэтавага выкарыстання бюджэтных сродкаў. Вінаватыя будуць пакараныя. Але важна задумацца: ці варта шукаць у рэгіёнах новых інвестараў для будаўніцтва ферм, калі можна хаця б часткова выкарыстоўваць для гэтых мэтаў рэсурсы, якія даўно ёсць?

**TUT.BY**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

РЕФЕРЕНДУМ-96

# ЛУКАШЕНКО ВЫИГРАЛ, БЕЛАРУСЬ ПРОИГРАЛА

**Авторитарный путь не был для Беларуси фатальным, но население и элиты клюнули на иллюзию «светлого прошлого».**

История дает примеры «диктатур развития» вроде Сингапура, Южной Кореи, Китая. При помощи референдума, проведенного 20 лет назад, 24 ноября 1996 года, Александр Лукашенко сконцентрировал в своих руках колоссальные полномочия, но диктатуры развития не получилось.

Беларусь не стала восточноевропейским тигром, как об этом трубила государственная пресса в тучные годы роста ВВП и заработков на дрожжах российских субсидий. Сейчас ВВП и реальные доходы в минусе, причем это не временные трудности, а капитальный кризис всей белорусской модели, утверждают независимые экономисты.

Ее архитектор и сегодня пытается пустить пыль в глаза заезжей российской прессе, но получается совсем плохо.

**Масса и номенклатура поддержали авторитаризм**

А начиналось все для молодого президента очень даже хорошо. Лукашенко действительно был популярен, когда затевал в 1996-м референдум, имевший целью покончить с непокорностью другой ветви власти — Верховного Совета.

При проведении плебисцита президентская ветвь власти не утруждала себя политесом, действовала брутально, безжалостно прессинговала и откровенно запугивала политических противников. Оппозиция назвала это неконституционным захватом власти, переворотом. Для обеспечения своей победы президент тогда создал «фактически штурмовой отряд», говорит бывший депутат Верховного Совета Сергей Калякин.

По горячим следам оппозиционеры заявили и о фальсификации итогов референдума-96. В частности, подозрительно выглядел большой процент досрочного голосования (вот когда зародился этот «передовой опыт»!).

Однако, по утверждению доктора социологии, основателя НИСЭПИ Олега Манаева, большая часть белорусов осенью 1996 года доверяла президенту, поддерживала его предложения. Так что, надо думать, многие искренне голосовали за переделку Конституции под Лукашенко, надеясь, что наделенный царской властью «батька» лучше решит их проблемы, наладит жизнь.

Более того, в тучные 2000-е годы чувство правильного выбора в массе обывателей укрепилось. Доходы белорусов стабильно и впечатляюще по постсоветским меркам росли. Внутренних противников режима с их призывами бороться за демократию масса не особо слушала. «Таити, Таити… Нас и здесь неплохо кормят».

К тому же, отметил в комментарии для Naviny.by директор Института политических исследований «Политическая сфера» Андрей Казакевич, в 90-е годы у Лукашенко «сложился альянс со старой постсоветской номенклатурой, она хотела порядка, ясных для себя правил, то есть авторитарной системы, к которой привыкла».

Авторитаризм может давать преимущества «в оперативном плане», например за счет концентрации государственных ресурсов для решения социальных вопросов, преодоления кризисных явлений в экономике, говорит политолог. Но если говорить о развитии страны в долгосрочной перспективе, подчеркивает он, то «авторитарные системы — это минус, они имеют много издержек».

В частности, поскольку «выборов практически нет», то возникает проблема коммуникации власти с населением и, наконец, проблема перехода самой власти — «неясно, что будет потом», отметил собеседник.

Некоторые части населения выигрывают от авторитаризма, другие — от демократии, причем демократическое развитие не обязательно сразу приносит экономические преференции, «в этом тоже сложность выбора между авторитаризмом и демократией», подчеркнул Казакевич.

**Тяжелое похмелье**

Референдум-96 поссорил Лукашенко с Западом. Евросоюз отказался ратифицировать уже подписанный договор о сотрудничестве и партнерстве с Беларусью. Недавно белорусский президент, принимая важную делегацию из Брюсселя, прозрачно намекал, что не грех бы такой документ наконец заиметь. Да, не грех, но двадцать лет потеряно.

Тогда же, после референдума-96, ставка была сделана на «братскую интеграцию» с Россией. Некоторое время в Минске считали, что ухватили бога за бороду. Обильными российскими дотациями безо всяких реформ обеспечивалась динамика роста на старой советской индустриальной базе.

Но сказка закончилась. Переработка льготной российской нефти перестала приносить прежние барыши. А другие белорусские товары стали терять конкурентоспособность. Авторитарная модернизация ряда отраслей (цементная, стекольная, деревообработка) не дала должного эффекта.

О реформах заговорили не только оппозиционеры, независимые эксперты, но и люди в окружении президента. Однако реформировать массив госсобственности означает подточить устои авторитарной власти, заматеревшей за два десятилетия после референдума-96.

Архитектор модели собственноручно рушить ее не согласен, а поскольку он решает все, то трансформация блокирована. В итоге страна погрузилась в стагнацию, хотя социологические опросы (за которые поплатился разгромом НИСЭПИ) в последние годы показывали, что за перемены выступает солидное большинство населения. В таких системах, как у нас, механизм обратной связи сломан.

Мир ушел вперед, в новые технологические уклады, а белорусы беднеют и не видят света в конце тоннеля. Недавняя команда из уст Лукашенко снова поднять зарплаты до 500 долларов в следующем году грозит новой девальвацией, потому что волюнтаристскую установку можно выполнить только печатанием пустых денег.

Привязка же к России сегодня стала большой головной болью для белорусского руководства. Оно пытается усилить взаимодействие с Западом, но безреформ диверсифицировать внешнюю политику и торговлю не получится. А реформы противопоказаны персоналистскому режиму, выстроенному на итогах референдума-96. Всё, порочный круг замыкается.

**Был ли этот вариант фатальным?**

Политологи любят красивое выражение «точка бифуркации». Мог ли быть иной исход у политического противостояния 1996 года, могла ли Беларусь пойти другим путем?

«Авторитаризм не является проклятием для постсоветских стран», — говорит Казакевич. Он отмечает, что наряду с примерами автократий в Средней Азии, Азербайджане есть примеры Грузии, Украины, Молдовы, Кыргызстана, «в значительной степени» Армении, когда «можно говорить о проблемах с демократией, но это другие режимы». Ход событий в Беларуси также не был запрограммирован, ситуация могла развиваться и в совершенно другом направлении, считает Казакевич.

Эксперт минского аналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич также не придерживается фаталистического взгляда. В 1996-м «шанс у общества, у демократических сил был», — заявил аналитик в комментарии для Naviny.by.

В частности, считает он, склонить чашу весов в свою пользу противники Лукашенко могли бы, «если бы удалось осенью 1996 года вывести на улицы столько же людей, как весной 96-го» (тогда прошла серия впечатляющих массовых акций протеста против политики президента, названная горячей весной).

Переломить ход событий могло бы и решение Конституционного суда об импичменте, «если бы не дрогнул [тогдашний глава КС Валерий] Тихиня». Иначе говоря, многое решали политическая воля, смелость конкретных действующих лиц, подчеркивает Карбалевич.

Так или иначе, история не терпит сослагательного наклонения. Двадцать лет назад белорусы позволили жестко переформатировать политическую систему под одного человека, надеясь, что таким образом получат процветание.

Но усиленные полномочия Лукашенко пустил прежде всего на то, чтобы обеспечить себе правление без конкуренции, создать ретромодель общественного устройства в советском стиле. По сути, он попытался остановить, заморозить время. Сегодня оно мстит.

**Александр Класковский**
**naviny.by**




МЕРКАВАННЕ

# ТВАРИ СЛУЖАЩИЕ

**Я вчера впервые увидела, как человека ведут на цепи. Не в кино про рабство, не в фильмах про садистов. Это были документальные кадры из белорусского суда.**

В Слуцкий суд на цепи приводили Ивана Барбашинского. Того самого, брат которого «сам собой» умер в Жодинском СИЗО, а многочисленные следы от ударов тупым предметом на его теле, если верить милиции, тоже «сами собой» получились.

Того самого, который жил спокойно, никого не трогал, но однажды вечером возвращался со старшим братом из кафе и попался на глаза милиции.

Его водили в суд на цепи. НА ЦЕПИ! Как злостного преступника. Как нелюдя. Как зверя. А сегодня дали два года «химии» и выпустили.

Кто придумал такие правила? Кто и кому давал полномочия делать из людей животных и сажать на цепь? Из людей, вина которых еще даже не доказана.

Но даже если доказана! Только садисты так себя ведут. Только садисты могут додуматься сажать людей на цепь, водить «руки кверху за спину, носом в пол» и на полусогнутых; только извращенцы могут мочиться людям на голову и рассказывать им о своих диких сексуальных фантазиях. Как в одном ведомстве смогли собрать столько извращенцев?.. Чтобы такое сотворить, надо было по-настоящему стараться. Много лет усердно СТАРАТЬСЯ!!!

«Большое спасибо журналистам», — это были первые слова Ивана Барбашинского после того, как его выпустили из клетки.

А я хочу сказать, что это ненормально. НЕНОРМАЛЬНО! Когда только журналисты, пользуясь временной оттепелью, и могут что-то сказать. Где адвокаты? Где сами судьи? Где депутаты? Где профессиональные психиатры и психологи? Где ответственные юристы, которые понимают, что даже у представителей ведомства государственного насилия, должны быть ограничители.

Где поюще-пляшущая общественная комиссия при МВД, которую недавно в колонии накормили, «как в ресторане», и они не постеснялись во всех СМИ об этом рассказать?..

В XXI веке человека водят на цепи. Без дай-причины КАЖДОГО, кто попал под уголовное обвинение, на суде сажают в клетку. Вместо «Здрасьте!» любому надевают наручники, а потом разбираются. В белорусских тюрьмах и СИЗО здоровые люди умирают «сами собой» и все тип-топ. Это что?.. Это как называется?..

На мой взгляд, это называется садизм. Садисты оккупировали милицейское ведомство, потому что даже самые маленькие погоны дают им просто неограниченную власть над людьми. А государство, закрывая глаза на все скандалы, им только потакает. Для государства твари служащие ценны и важны. Надо понимать, потому, что именно они делают из общества тварей дрожащих.

**Светлана Калинкина**
**Белорусский партизан**

БЕЛАРУСЬ – РАСЕЯ

# АБУРЫЛІСЯ НА МЕРКАВАННЕ БЕЛАРУСКІХ ГІСТОРЫКАЎ

**У Расіі абурыліся, што беларуская нацыя "старэйшая за расіян на 200 гадоў". Падчас ток-шоу "Время покажет" у эфіры расійскага Першага канала абмяркоўвалася кніга беларускага гісторыка Алега Трусава "Гісторыя сярэднявечнай Еўропы".**

Як можна меркаваць, саму кнігу расіяне не чыталі, яны цытавалі публікацыю пра яе прэзентацыю. Прагучала, што беларусы — "сапраўдныя рускія", што Суворад "паліў вёскі" і г. д. Вядучы Арцём Шэйнін настойліва спрабаваў правесці паралелі паміж сітуацыяй у Беларусі і ва Украіне. Ён мяркуе, што ў нашай паўднёвай суседкі таксама ўсё пачыналася з такіх падручнікаў.

Журналістка Першага канала Кацярына Кібальчыч заявіла, што кніга Трусава — гэта не афіцыйная пазіцыя Беларусі. А гісторык і грамадская дзеячка Ніна Стужынская прызналася: "Я ў нейкім дзікім шоку... З чаго тут паніка? З кропкі гледжання беларусаў гэта нармальная з'ява. Прычым тут вы? Гэта гісторыя нашай краіны!".

Але вядучы не супакойваўся. Згадаў пра 10 тысяч загінулых украінцаў, абазваў аўтара кнігі "фрыкам". Былі паказаныя відэакадры з вулічнай акцыі ў Мінску ў сакавіку 2016-га, на якіх была моладзь з бел-чырвона-белымі сцягамі скакала і крычала "Хто не скача, той маскаль!". Пасля прадэманстравалі такія ж відэакадры з Кіева ў кастрычніку 2013 года. "Пра Украіну гаварылі: паскачуць і супакояцца. Не супакоіліся", — сказаў Шэйнін, намякаючы, што ў Беларусі існуе небяспека паўтарэння ўкраінскіх падзей.

Відэа праграмы гл. тут (першая яе частка прысвечаная Украіне, у ёй з расійскімі прапагандыстамі спрачалася палітолаг Алеся Яхно).

Ніна Стужынская ў каментары Радыё Свабода сказала, што ў шоку ад гэтай сустрэчы з расійскімі прапагандыстамі. Паводле яе слоў, у Маскве штучна нагнятаецца беларуска-расійскі канфлікт.

**euroradio.fm**

ПАЎТОР ЖАНРУ

# ПРАВАДЫР ПРАПАНУЕ ІСЬЦІ Ў МІНУЛАЕ

**Кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка вырашыў чарговым разам ашчасьлівіць беларускі народ. Ён зноў даручыў у 2017 годзе вярнуць сярэдні заробак на ўзровень $500. Трэцім разам, лепшым часам.**

Першы раз гэта было ў 2010 годзе, напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. У выніку цягам таго году сярэдні заробак вырас з $350 да $530. Потым увесну 2011 году здарыўся абвал і дэвальвацыя рубля амаль на 200%.

У 2012 годзе Лукашэнка зноў загадаў давесьці сярэдні заробак да $500. І зноў гэта закончылася дэвальвацыяй на мяжы 2014-2015 гадоў на 40%.

Апошні раз Лукашэнка абяцаў заробак 500 даляраў у 2014 годзе. «Пяцьсот даляраў — гэта той мінімум, які павінен быць у кішэні чалавека», — казаў ён. Але здарыўся крызіс 2015, 2016 году. Цяпер у сярэднім беларусы атрымліваюць $377 у эквіваленце. Два гады Лукашэнка маўчаў наконт сярэдняга заробку ў далярах. Прэм'ер Кабякоў сёлета ўвесну казаў: «Думаю, у нас грамадзтва ўжо зразумела, што ад гэтых паказчыкаў у даляравым эквіваленце неабходна адыходзіць. Гэта не заўсёды справядліва і не зусім дакладна з пункту гледжаньня эканамічнай навукі».

І вось цяпер Лукашэнка, насуперак «пункту гледжаньня эканамічнай навукі», зноў ставіць такую задачу на парадак дня. Чаму раптам ён вярнуўся да гэтай «сьвятой лічбы»?

Рэч у тым, што крызіс сацыяльнай мадэлі непазьбежна выклікае ідэалягічны крызіс. Падобная сытуацыя здарылася на пачатку 1990-х гадоў, пасьля краху СССР і сацыялістычнай сыстэмы. Разбурэньне ранейшай карціны сьвету выклікала ў масавай сьвядомасьці псыхалягічны шок. Стварэньне Лукашэнкам беларускай сацыяльнай мадэлі дазволіла пераадолець гэты крызіс, стварыць новую сьветапоглядную сыстэму каардынатаў.

І вось цяпер у нейкай ступені мы вяртаемся да пачатку 1990-х гадоў. Сацыяльнаму і эканамічнаму крызісу зноў спадарожнічае ідэалягічны, каштоўнасны і псыхалягічны крызіс. Ва ўяўленьні кіруючай эліты і грамадзтва бурыцца звыклы сьветапарадак. Сярод насельніцтва зьявіліся расчараваньне і роспач. Прыходзіць усьведамленьне, што крызіс, падзеньне ўзроўню жыцьця — гэта не часовыя цяжкасьці, выкліканыя вонкавымі чыньнікамі, як спрабуе пераканаць улада, а надоўга — можа, назаўсёды. Гэта ўжо знайшло адлюстраваньне ў сацыялягічных апытаньнях. Зьяўляецца ўсьведамленьне, што беларуская сацыяльная мадэль — гэта тупіковы варыянт, што 20 гадоў «сусанін» вёў краіну не туды. Народ нават пачаў схіляцца да ідэі рэформаў.

У гэтай сытуацыі галоўны віноўнік тупіку вырашыў, што трэба даць людзям надзею і аптымізм. Лукашэнка нічога лепшага не прыдумаў, як зноў вярнуцца да абяцанай лічбы $500.

Хоць кіраўнік Беларусі і зьвязвае рост заробкаў з павелічэньнем прадукцыйнасьці працы, але гэта не павінна ўводзіць у зман. Бо з улікам цяперашняга эквіваленту даляравых заробкаў, каб забясьпечыць $500, трэба павялічыць прадукцыйнасьць працы за год у паўтара раза. Гэта фантастыка.

Дарэчы, праграма на пяцігодку, прынятая Ўсебеларускім народным сходам, прадугледжвае, што да 2020 году сярэдні заробак вырасьце на 9,5-11,6%. Калі адлічваць ад цяперашняга ўзроўню, то атрымліваецца дзесьці $410 на канец пяцігодкі. Такімі тэмпамі (9,5-11,6% за пяцігодку) трэба 15 гадоў, каб выйсьці на $500.

Цяпер усе загаварылі пра нерэальнасьць гэтага абяцаньня. Заўважыў бы, што тэарэтычна дасягненьне такога сярэдняга заробку магчымае пры некалькіх умовах. Калі раптам сусьветныя цэны на нафту і калій вырастуць у 2-3 разы. Калі запусьціць друкарскі станок. Калі закрыць нерэнтабельныя прадпрыемствы, звольніць усіх лішніх работнікаў, скарацiцьдзяржапарат.Каліажыцьцявіць рэвальвацыю, павысіць абмены курс беларускага рубля. Іншая справа, якія эканамічныя наступствы гэта за сабой пацягне.

Але тут важна ацаніць крызіс жанру. Нічога новага прыдумаць Лукашэнка ня ў стане. Тут нават ня ў тым справа, што на новыя выклікі ён рэагуе па-старому. Бо ні на што іншае ня здольны.

Праблема ў тым, што сам факт гэтага палітычна-папулісцкага рэмэйку наўрад ці прынясе яго аўтару іміджавыя дывідэнды. Бо мабілізаваць грамадзтва можа толькі нейкая моцная ідэя, якая сягае ў далягляд. Глядзіце, на выбарах, якія адбыліся апошнім часам у шэрагу краін (ЗША, Малдова, Баўгарыя), перамаглі кандыдаты, якія прапанавалі грамадзтву новую парадыгму разьвіцьця (ня будзем зараз разважаць наконт іх рэалістычнасьці). Раней і ў Беларусі быў такіпрыгожыідэалягічныканцэпт.Маўляў, мы пабудавалі ўнікальную сацыяльную мадэль, у якой сацыяльная абарона насельніцтва спалучаецца з хуткім эканамічным ростам («Тыгар Усходняй Эўропы»), сацыяльна-палітычнай стабільнасьцю, нам зайздросьцяць усе суседзі, жыць у такой краіне — вялікі гонар. Такая своеасаблівая беларуская мара. А абяцаньне заробку $500 — гэта такі вельмі прыземлены канструкт, які мала каго натхняе.

Другі момант. Беларусы памятаюць, што абяцаньне давесьці заробак да $500 ужо два разы давалася. І кожны раз заканчвалася гэта кепска, вялікай дэвальвацыяй. У масавай сьвядомасьці грамадзтва згадка пра гэта піяр-ход зьвязана з псыхалягічнай траўмай. І навошта верадзіць раны?

Нарэшце апошняе. Абяцаць заробак $500,які ўжо быў у 2010 годзе, гэта рух аца не наперад, а назад. Высьвятляецца, што Беларусь, можа, адзіная краіна ў сьвеце, дзе правадыр прапануе ісьці ў мінулае, задам наперад. З чым вас усіх шчыра віншую.

**Валер Карбалевіч**
**www.svaboda.org**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# 20 НОВЫХ КРЫЛАТЫХ ФРАЗ ЛУКАШЕНКО

**Самые интересные цитаты главы государства с пресс-конференции российским СМИ. На пресс-конференции региональным СМИ России Александр Лукашенко говорил 5 часов 40 минут — это рекорд его общения с российскими журналистами. Немало фраз, сказанных на этой встрече, станут крылатыми.**

Naviny.by собрали самые запоминающиеся из них.

«Причина распада Советского Союза? Стирального порошка не хватало. Мне жалко было смотреть на женщин в очереди, да и сам не единожды стоял».

«Беларусь со времен Советского Союза поставляет в Россию креветки и сельдь».

«Во времена Советского Союза Калининград, считайте, был белорусской территорией. <...> Мы, конечно, не претендуем на включение Калининграда в состав Беларуси, ни в коем случае...»

«В России нет ни одного белорусского гастарбайтера».

«Главный омбудсмен (матерное это слово) в Беларуси — это президент».

«Дубасят нас — и правильно делают. У нас в спорте появилась новая тенденция: шпильнул себя каким-то наркотиком вместо того, чтобы заниматься, и мышечная масса растет».

«Как старый футболист — это моя первая профессия. В хоккей я играю по несчастью, а вообще я футболист в своей специальности спортивной, но травма колена, и мне пришлось заниматься хоккеем».

«Я, если занимаюсь спортом, бегу на лыжах, то 13 километров бегу, не 10 и не 15. Если я делаю какие-то упражнения, то делаю 13 раз или несколько раз по 13. Я очень хорошо отношусь к этому числу».

«Вот эти всякие гаджеты, айфоны, плафоны и прочее будут приносить богатство в будущем — современные новейшие технологии».

«В образовании есть еще столько дурноты неразумной».

«Смотрю на этот „Черный квадрат", так он называется, да. Думаю, что тут такого? Может, и я бы за ночь такое нарисовал».

«И вообще культурные люди — это вообще талантище. Убей меня, я не напишу картину. Вот повесили бы завтра, я б не написал картину».

«Мужик не может быть таким талантливым [в искусстве], как женщина».

«Царствие ему покойное» (о бывшем президенте РФ Борисе Ельцине).

«Если вижу сорняки (в этом году был период влажный), то штаны снял и в трусах пошел пропалывать вместе с двумя человеками».

«У меня старший сын — черномазый такой».

«Если бы Беларусь сейчас ежегодно добывала 7-8 млн тонн нефти — это была бы самая процветающая страна».

«Говорят, что рынок всё отрегулирует, но рынок — это жулики».

«Если комбайн после поломки через сутки не завертится, мы отворачиваем голову генеральному директору предприятия».

«Покупайте белорусские сыры».

**"Белапан"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.11.2016 у 15.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.